Год II. Чэрвень 1933 г. № 6 (18).

# Да злучэньня!



Ты̀ єси Пе́тръ,
и на се́мъ ка́мени созижду це́рковь мою. Мато. ѕі. иі.

## Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын
Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Чэрвень 1933 г. № 6 (18).


## Урачыстасьць Сьв. Апосталаў Пётры і Паўла.

*(29 чэрвеня).*

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

### *паводле Мацьв. 16,13-19, зачала 67.*

*13 Таго часу прыйшоў Ісус у староны Цэзарэ і Пілiпавай і пытаўся ў сваіх вучняў, кажучы: За каго людзі маюць Сына чалавечага?*

*14 Яны-ж сказалі: Адны за Яна Хрысьціцеля, другія за Ільяша, іншыя-ж за Ерэмію або за аднаго з прарокаў.*

*15 Сказаў ім Ісус: А вы за каго мяне маеце?*

*16 Адказваючы Сымон Пётр сказаў: Ты ёсьць Хрыстос, Сын Бога жывога.*

*17 Ісус-жа адказваючы, сказаў яму: Багаслаўлены ты, Сымоне, сыне Ёны, бо цела і кроў не абявілі табе, але Айцец мой, каторы ёсьць у небе.*

*18 І я табе кажу, што ты ёсьць Пётра (скала) і на гэтай скале збудую царкву маю і вароты пякельныя не перамогуць яе.*

*19 І табе дам ключы валадарства нябеснага, і што толькі зьвяжаш на зямлі, будзе зьвязана і на небе.*

---

*«I Я табе кажу, што ты ёсьць Пётра (скала), і на гэтай скале збудую царкву маю, і вароты пякельныя не перамогуць яе.»*

(*Мац. 16,18*).

Сьвята Сьвятых Апосталаў Пётры і Паўла з вялікаю ўрачыстасьцю абходзіцца хрысьціянамі. Перад сьвятам, наша Царква ўсходня-славянскага абраду, каб падгатовіць належна людзей да ўрачыстасьці Вярхоўнаапосталаў Пётры і Паўла, загадвае пост. Таксама Царква жадае, каб хрысьціяне прыгатавалі сябе праз шчырую споведзь.

Вельмі ўрачыста гэта сьвята абходзіцца, бо пасьвячана ў чэсьць Сьвятога Апостала Пётры, які Ісусам Хрыстом быў названы скалою, на якой абяцаў збудаваць сваю царкву, і ў чэсьць Сьв. Апостала Паўла, які быў апосталам народаў, першым і найбольшым місіянэрам, што найбольш палажыў працы і шмат цярпеў перасьледаваньняў дзеля распаўсюджваньня навукі Хрыстовай.

Немагчыма ў кароткім сказе аб абодвых многа сказаць, дзеля таго зьвярну толькі ўвагу вельмі паважаных чытачоў на асобу Сьвятога Апостала Пётры.

Сьвяты Пётра спачатку называўся Сымон, і перад пакліканьнем на апостала займаўся рыбалоўствам, быў неадукованым простым рыбаком.

Сяньняшняе эвангельле расказвае нам, як Ісус Хрыстос, у нагароду за прызнаньне Яго за Сына Божага, пераняніў імя Сымана на Пётру, што абазначае—скала і даў абяцаньне — на Пётры, як на моцнай скале, збудаваць сваю царкву. **„Я табе кажу: ты ёсьць Пётра (скала), і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю“ (Мац. 16,18).**

Мы ведаем, як пры кожнай будове вельмі важны ёсьць скалісты фундамэнт, на якім апіраецца ўся будова. У кожнай супольнасьці, ці гэта будзе злучэньне людзей дзеля мэты сьвецкае, ці рэлігійнае, — фундамэнтам ёсьць улада, на якой апіраецца лучнасьць адзінак і якая лучыць адзінкі ў адно цэлае.

Ісус Хрыстос заснаваў царкву, гэта значыць саюз людзей, што прызнаюць Ісуса Хрыста за Бога і прыймаюць сродкі, якія Збаўца устанавіў для збаўленьня душы.

Гэта супольнасьць людзей зьвязана ў адно цэлае ня толькі ўнутранна аднэю вераю, але і вонкава—аднэю ўладаю. Такою найвышэйшаю ўладаю, што лучыць усіх хрысьціян у адно цэлае ёсьць улада, якую абяцаў даць і даў Ісус Хрыстос Сьв. Пётры.

Сяньняшняе эвангельле гавора нам аб абяцаньні збудаваньня царквы на Пётры, Ісус Хрыстос праз гэта абяцае даць найвышэйшую ўладу Сьв. Пётры, і пэўне, ня можа

ніхто мець сумліву ў тым, што Ісус Хрыстос гэтае абяцаньне выпаўніў.

Даў Збаўца найвышэйшую ўладу Сьв. Пётры, калі сказаў яму, каб узмацоўваў веру братоў сваіх: **„Я маліўся за цябе, каб не паменшала вера твая; і ты некалі, навярнуўшыся, умацуй братоў тваіх“** (Лук. 22,32). Яшчэ выразьней пацьверджвае і, можна сказаць, аканчальна устанаўляе Сьв. Пётру сваім заступнікам на зямлі, калі аддае яму пад яго апеку ўсё сваё стада.

**„Ісус кажа яму: пасі авечкі Мае“** (Іоан 21,17).

Хрыстос заснаваў царкву, ад Яго Царква атрымала сваю арганізацыю. Паводле волі Ісуса Хрыста царквою кіруюць апосталы, але паміж ім ёсьць адзін, каторы ёсьць старшым паміж імі, каторы мае абавязак быць іх кіраўнікам.

Пэўна, што Ісус Хрыстос не заснаваў сваю царкву толькі на кароткі час, пакуль жывуць апосталы. О, не—як Ісус Хрыстос памёр за ўсіх, так сама жадае, каб усе людзі і ўсіх часоў былі збаўленыя, і царква яго таксама мае істнаваць да сканчэньня веку. — **„і вароты пякельныя не перамогуць яе“** (Мац. 16,18). Калі мае быць царква да канца сьвету, так сама і мусіць істнаваць такая арганізацыя, якую пастанавіў Ісус Хрыстос.

Найвышэйшая ўлада не магла згінуць са сьмерцяю Сьв. Пётры, а павінна істнаваць заўсёды, павінна перайсьці на наступнікаў.

Хто-ж зьяўляецца наступнікам? Той япіскап, каторы займае пасад Сьв. Пётры Апостала. Дзе-ж яго быў пасад і дзе ён памёр? Гэтаму ніхто не запярэчыць, што Сьв. Пётра быў япіскапам рымскім, там памёр і там па сяньняшні дзень знаходзяцца яго мошчы. Вось дзеля чаго, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, мы прызнаем Папу Рымскага наступнікам Сьв. Пётры Апостала, вось дзеля чаго ня хочам падлягаць Мітрапаліту Дзянісу ў Варшаве, а падлягаем Сусьветнаму Архірэю ў Рыме, бо ён наступнік Сьв. Пётры, на яго перайшла найвышэйшая ўлада ў Царкве Хрыстовай.

Гісторыя нам сьведчыць, што ад самага пачатку, толькі гэрэтыкі, асуджаныя царквою, не падлягалі Папе Рымскаму, а ўсе іншыя хрысьціяне Усходу і Захаду прызнавалі да XI стагодзьдзя Сусьветнага Архірэя ў Рыме галоўным пастырам у Царкве Хрыстовай.

Да яго зьвярталіся ў патрэбе, яму жаліліся на крыўду і несправядлівасьці. Так, напрыклад, зьвярнуўся у IX стагодзьдзі да Папы Рымскага сьв. Ігнат, патрыарх Канстантынопальскі, калі Яго несправядліва зьмясьцілі з партыяршага пасаду і паставілі Фоція.

Хаця ад першых стагодзьдзяў было 5 патрыярхаў, але адзін з іх, а гэта Патрыярх гораду Рыму быў паміж імі старшы, яму іншыя патрыярхі падлягалі.

Не магло і ня можа быць інакш, калі хочам, каб была запраўды адзіная Хрыстовая Царква, павінна быць таксама адзіная управа. Возьмем, напрыклад, якую-небудзь дзяржаву. Літва і Польшча, дзьве дзяржавы, кожная мае свайго Прэзыдэнта. Калі-б у Польшчы паставілі 2 галавы Дзяржавы, двох прэзыдэнтаў, ня было б адзінства ў Дзяржаве, ня было-б аднае Польшчы. Так сама і ў царкве, калі на Ўсходзе патрыархі адмовілі падпарадкаваньня, дык гэтым самым адкалоліся ад адзінства, няма адзінства.

Найважнейшая прычына, дзеля якой мы маем падлягаць Япіскапу гораду Рыму, гэта—воля Госпада Ісуса Хрыста. Сам Хрыстос даў Царкве арганізацыю, паставіў старшым над апосталамі Сьв. Пётру, такі самы парадак мусіць быць заўсёды, — гэтая ўлада Сьв. Пётры перайшла на яго наступнікаў, і яму маюць падлягаць усе япіскапы, як падлягалі ўсе апосталы Сьв. Пётры.

Як прыкра і вельмі балюча, што хрысьціяне, якія вераць у таго-ж самага Ісуса Хрыста і кажуць, што яго любяць, аднак-жа паміж сабою вядуць барацьбу, ненавідзяць адзін аднаго. О не, так быць не павінна: Ісус Хрыстос заснаваў толькі адну царкву і яна ёсьць тая, якой кіруе наступнік Сьв. Пётры на рымскім пасадзе па сяньняшні дзень.

Адкалоліся ад адзінства хрысьціяне Усходу і стварылі сваю царкву, не паводле волі Хрыста, бо Хрыстос жадае **„каб усе былі адно“** (Іоан. 17,21). Стварылі людзі розныя цэрквы праз непаслухмянасьць, праз пыху, таксама могуць і павінны людзі цяпер імкнуцца да адзінства, праз пакорную паслухмянасьць Сусьветнаму Архірэю Папе Рымскаму. Вось, мае дарагія браты праваслаўныя, наша мэта злучыць усіх у адну Хрыстовую сям‘ю. Мы, злучаныя праваслаўныя або уніяты, клічам усіх братоў хрысьціян да злучэньня. Да злучэньня ўсіх мы імкнёмся, і просім Госпада Бога, каб палажыў канец гэтаму разлучэньню паміж хрысьціянамі, якое насадзіла пыха.

Асабліва сяньня, ў вялікае сьвята Сьвятых Вярхоўнаапосталаў Пётры і Паўла, будзем прасіць заступніцтва гэтых сьвятых, каб усе хрысьціяне зразумелі патрэбу адзінства ў аднэй царкве і каб сьцямілі, што тая ёсьць запраўды Хрыстовая Царква, каторую кіруе наступнік Сьвятога Пётры — Сусьветны Архірэй Піус XI Папа Рымскі. Амін.

*а. Антоні.*

# Судзьба.

*Пасьвячаю Яго Праасьвяшчэнству Япіскапу Пінскаму Букрабе.*

*Ніхто з нас ня знае,*
*Як Бог пакіруе,*
*Як дзень перабудзе,*
*Як перaначуе.*
*І ніхто ня знае,*
*Куды Бог направіць,*
*У якую дарогу,*
*Каго мае ставіць.*
*Але хто заўсёды*
*Да Бога з мальбою,*
*Абдарован будзе*
*Ласкаю Сьвятою.*
*О, Божа ласкавы!*
*Збаўца Ты наш верны!*
*За кожны учынак,*
*Твой прысуд прымерны.*
*О, Божа наш добры!*
*Мы Цябе тут просім,*
*І свае малітвы*
*Да Цябе заносім.*
*Захавай нам Пастыра,*
*Што намі кіруе —*
*Праз Свае малітвы*
*Нам Рай дакляруе.*
*Ўлі Ты Яму Божа,*
*Сілы і ахвоту,*
*Да тэй цяжкай працы,*
*Мазольнай работы.*
*Прадоўж Яму веку*
*Да найстаршых лет,*
*Акрый Сваім плашчам,*
*Адвярні ад бед.*

Э. ВАНСЛАЎ.

# Хрыстос...

Хрыстос паўстае... Ён паўстае ў сваёй устрасаючай любові перад усімі людзьмі.

Ён паўстае перад людзьмі добрай волі, перад тымі, хто Яго знае... перад тымі, хто Яго прадчувае, чыя гадзіна яшчэ ня выбіла і хто ў цемнаце выцягвае да Яго рукі.

* * *

Шчасьлівы тыя, хто верыць у Яго, хто Яго любіць і жадае: у іх ёсьць сьвяціла жыцьця.

І па меры іхняга падходу да таго, што завецца „сьмерцяй“, твар Таго, Хто зьяўляецца жыцьцём, выясьняецца перад імі на кругавідзе краю вечнасьці.

І гэта да таго дня, калі яны, назаўсёды зацьверджаныя ў сьвеце, будуць бачыць Яго, як Ён ёсьць, тварам да твару. Якое відзеньне! Ці-ж можна ня быць шчасьлівым, нават тут на зямлі, калі сэрца запраўды поўнае гэтай пэўнасьці!

* * *

Хрыстос паўстае перад тымі, хто, не адкінуўшы Яго, усё ж такі пакінуў Яго шлях.

Адны з іх слабыя, што пазволілі жаданьням зрабіцца іхнімі панамі. Гэткіх, нажаль, вялізарны лік.

Другія паверылі, што бліскучы сьветач пацьмянеў перад агоньчыкам, выпушчаным крытыкаю. Гэтак іншы раз асобнае дзерава перашкаджае бачыць цэлы лес.

Ім у рукі трапіла якая-нібудзь кніга, і яны праглынулі яе, як праглынаецца атрута.

Якая? Ніцшэ, Штраус, Гарнак, аж да іх сурагатаў, як напр. Рэнан. Гэта мае мала значэньня. Зло пачало сваё дзеяньне, хоць гэтыя вераломы пярэчаць адзін аднаму і, як кажа сам Гарнак, займаюцца ўзаемным пажыраньнем.

Малакроўныя ў веры, іхнія чытачы аказаліся спанталычанымі, у той час як хрысьціянства ёсьць глыбокае жыцьцё, якое стаіць над тэкстамі і сваёю пладатворчаю запраўднасьцю цягне нават да мучаніцтва яшчэ і ў нашыя дні.

* * *

Мы, хрысьціяне, верым, апіраючыся на дадзеных, якія адрозьніваюцца ад тых, што чэрпаюцца з разьдзяленьня нашых праціўнікаў: не на дадзеных разбору сухіх тэкстаў. Асновы нашае веры мы знайшлі, стаўшы на калены і сказаўшы Богу: „зрабі так, каб я бачыў“.

Мы іх знайшлі ў бязумоўнай неабходнасьці агульнай гармоніі сьвету, і гармоніі хутчэй моральнай, як матар'яльнай: у пэўнасьці, што на зямлі нішто не перавышае Хрыста, і што лепшая рэлігія павінна быць праўдзіваю рэлігіяй,— шляхом у над'земнае жыцьцё.

* * *

Хрыстос, нарэшце, паўстае і перад тымі, хто ненавідзіць Яго ўсёю сілаю сваее істоты. Для гэткіх Хрыстос — лекар, адзіны лекар, таму што ён уцелясьняе надпрыроднае. А апошняга яны ня хочуць прызнаць а ніяк.

Яны абрысавалі матэрыю зачарованым колам і абвяшчаюць яго непераходжвальным, цураючыся ўсяго іншага: паводле іхняга цьверджаньня, вонках гэтала кола няма нічога, і асабліва няма Яго. Чалавечы розум для іх ёсьць канцавою асноваю ўсіх рэчаў.

* * *

Але яны-ж бачаць пад сабою бясконцы рад ніжэйшых істотаў. Дык чаму-ж яны адмаўляюцца бачыць вышэйшыя?

Паўпісьменныя, людзі популярнага падручніка, пасталавілі, што кругавід закончваецца страхою іхняе хаты. Падымацца на гару забаронена! З-заду яе няма нічога, ня існуе нават іншае гары.

Нічога! Гэта іхні дэвіз, іхняя надзея і гордасьць. Заключэньне надходзіць само сабою. Аднаднёўка, створаная для некалькіх гадзін жыцьця, карыстайся ўсім, што ты знаходзіш тут унізе, то-ж заўтра цябе ня будзе. Гэткім чынам чалавек абагаўляе сябе, робіцца Вышэйшаю Істотаю. Бедная Вышэйшая Істота.

* * *

Але як-жа дарэмная, пустая гэта ненавісьць. Яна не дасягае Хрыста, Які пануе над усім.

І дзеля таго, калі ў нас цячэ хрысьціянская кроў, дык мы застаемся хрысьціянамі назаўсёды. Можна пакінуць бацькаўшчыну, але нельга пакінуць сваё народнасьці: яна ў крыві нашых жылаў, яна напісана на нашым аблічны, у вымове, нават у колеры валасоў. Я магу паехаць у Бэрлін, гаварыць там панямецку, і ўсё-ж такі пра мяне скажуць: гэта — француз. Жыд можа схавацца на краі сьвету, запісацца там у падданыя і, ня гледзячы на ўсё гэта, ён застанецца жыдам.

* * *

Гэта мае месца для ўсіх плямёнаў, для іх цела і душы. Можна адкідаць сваю народнасьць, выблёўваць, кідаць яе ў забыцьцё, але яна вас ніколі не забудзе, бо яна жыве ў вас заўсёды.

Гэтай вось акалічнасьцю і тлумачыцца шалёная роспач ненавісьнікаў Хрыста і зьяўленьне гэтулькіх Яго „жыцьцяапісаньняў“ аж да нэгацыі факту Яго істнаваньня.

Нэгатары хочуць вызваліцца ад Яго, але ня могуць.

Хрышчэньне нас адʼзначыла нязмывальнаю пячаткаю. Чалавек застаецца хрысьціянінам, як робішся іерэем... навекі!

* * *

Хрыстос паўстае ў сваёй усеабнімальнай любові, Ён прадстаіць перад усімі людзьмі.

Шчасьлівы тыя, хто верыць у Яго, хто Яго любіць і жадае: у іх ёсьць сьветач на жыцьцёвым шляху.

А другія? Хрыстос паўстае і перад імі. Хрыстос — няўхільны!

*З П. Лерміта.*

# Голас з-за Гарыня.

У палескай глушы,
За Гарынем ракой,
Адна вёска, Смародзкам яе называюць.
А там цэрква Сьвята,
Сіратою стаіць,
Бо Айца тыя людзі ня маюць.
Ах назад вы, назад,
Дакуль будзеце спаць,
Ужо можна даўно прабудзіцца.
Ды пад цэркву пайсьці.
На калені упасьць,
І шчыранька Богу маліцца.
Толькі шчыра прасіць,
Бога й Матку Яго,
Ды і Тройцу Яго Прасьвятую.
Натхні розумам нас
І прымі да Сябе.
Без Цябе, мы тут церпім, гаруем.

Што-ж мы вінны таму,
Што калісь саграшыў
Можа бацька, ці дзед, а мо‘ прадзед;
Яны цёмны былі,
Без асьветы жылі,
Гэта поп і з царом нас уладзіў.
Яны сілай маглі
Іх прымусіць, прыгнесьць,
Каб Сьвятое, праўдзівае, веры пазбыцца,
І ў турму іх вялі,
І лупілі „кнутом,“
Ім казалі ад праўды адбіцца.
Ад бацькоў і да нас,
Да дзяцей іх малых,
Так расейшчынай ўсіх акруцілі,
Як казалі рабіць,
А мы слухалі іх,
Што хацелі, то з намі зрабілі.
А цяпер настаў час
І нам вочы адкрыў,
Дык пара нам усім прабудзіцца,
Каб злучыцца ізноў
З скалой—Пётрай Сьвятым,
Жывучы нам да мэты дабіцца.
Ах Ты, Пётра Сьвяты,
Шчыра Бога прасі
І за нас Ты ў яго заступіся,
Каб злучыў у адну,
Нас аўчарню Тваю,
Заступай Ты, прасі і маліся.
Каб нам Госпад памог
І ўсім вочы адкрыў,
Дзе праўдзівая вера, надзея.
А мы пойдзем да іх,
Як да родных сваіх,
Не адкінуць-жа нас, а прыгорнуць, прыхіляць.
Найчысьцейшая Маці,
Пamaжы нам прыстаці,
Заступіся, спасі і памілуй.
Прылучы да адных,
Да авечак сваіх.
Каб народ жа наш цёмны ня згінуў.
Нашу вёску Смародзк,
Асьвяці, ўразумі
І ня дай-жа ім болей блудзіці,
Ты ім вочы адкрый,
На дарогу пастаў
І скажы, чаго ў Бога прасіці.

А Бог добры Айцец,
Ён даруе ўсё нам.
Бог прыгорне, прытуле, пасадзіць.
Нам Духоўніка дасьць,
Не пазволіць упасьць,
За Пятром, за Сьвятым паправадзіць.
А вы йдзеце за ім,
За Духоўнікам тым,
Дзе праўдзівая вера сьвятая,
То ніхто не сапхне,
Нас з дарожанькі тэй,
Ён прышле нам Айца, Ён іх мае.
А той будзе, штодзень,
Нас вучыць настаўляць,
За нас шчыранька Богу маліцца.
Спавядаць, прычашчаць,
І хрысьціць, і хаваць,
Дык пазволь-жа нам, Божа, злучыцца.

Старадаўні.

---

Г. Кастэльнік.

# Вялікія людзі.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

## Самсонава каханьне.

(Працяг, гл. „Да Злучэньня“ № 5).

Штораз прыкрэйшай і дакучлівейшай станавілася тая наганка для абедзьвюх старон.

Самсон, бы дзікі зьвер, каторага лавецкія сабакі гоняць, бывала, спыніцца раптам бягучы дый адгрызаецца. Сабакі адскочаць на момант, але не пакідаюць свае ахвяры...

Аднак за кожнаю сваёю няўдачаю Даліля яшчэ больш дакучала Самсону, ды абсыпала яго рознымі прытычкамі— то плачам, то дакорамі, то гневам, то зноў любошчамі ды ўпартай маўклівасьцю.

Вядома, што ў такіх выпадках перамагае жанчына, як перамагла прамаці наша Эва ў раі.

Самсон быў як на крыжы расьпяты: ні то ўгары дзяржацца, ні ўдол упасьці!

Кожны раз, як Даліля будзіла яго — бачыў ён дзіўныя сны: быццам стаяў ён адзін, але асьлеплены і астрыжаны— абголены, без валасоў і без барады, ў кайданох, у турме... ды выцягаў ланцугамі зьвязаныя рукі, просячы ратунку ў самога сябе,—ў таго ўласьцівага Самсона, кудравага, з нечалавечаю сілай...

Той дзіўны сон, што раз за разам паўтараўся, прыгнятаў яго. А з другога боку Даліля, зноў тыя гончыя сабакі. Жыцьцё Самсону абрыдала.

Душа насьмерць ашлягла-змучылася. Каханьне пераварылася ў жоўць.

Альбо пакінуць Далілю — або здрадзіць ён сваю тайну — іншае рады ня было. Пакінуць любеньку Далілю — не, гэтага ня мог зрабіць Самсон, ня мог на гэта здабыцца! Асталося адно: выявіць Даліле тайну. Што будзе, то будзе! Аднак-жа Самсон ужо настолькі быў пераканаы ў вернасьці свае любай, што аб крывадушным подступе на‘т і думаць не хацеў.— Так заўсёды людзі сябе абдурваюць, калі прачуваюць ліха, а ня хочуць думаць пра яго.

Якая была далейшая гісторыя Самсона — гэта ведаюць усе школьнікі: Самсон нарэшце адкрыў тайну сваёй палюбоўніцы, а яна здрадзіла яго. Астрыгла яго, паклікала Філістынаў з каморы, а тыя ў міг зьвязалі яго медзянымі ланцугамі.

Калі Самсон прачхнуўся, глянуў жаласна на Далілю і выцадзіў праз заціснутыя зубы: ты... гадзіна... з варожага насеньня! Гэта было ўсё, што ён цяпер мог зрабіць.

А Даліля адвярнулася да сьцяны, бо перад сьцяной толькі магла апраўдаць сваё жаночае сэрца і разбойнічы талент.

Споўніўся на Самсоне яго злавесны сон. Філістыны вылупілі яму вочы і ўкінулі ў турму. Не забівалі яго для свае ўласнае ўцехі: каб магчы свабодна віно піць над галавою калісь страшнага свайго ворага. Такая ўжо чалавечая прырода: мае ў тым прыемнасьць, каб аглядаць мядзьведзя, ці льва ў клетцы. Гэта дагаджае чалавечай гордасьці і сіле. Але калісь так уцяшаўся Самсон, што мог свабодна любіць Далілю ў зямлі сваіх ворагаў...

Даволі меў часу Самсон у турме, каб перадумаць сваё жыцьцё і любоў да філістынскіх дзяўчат.

— Так мне належыцца! Я гэта заслужыў! — уздыхаў ён штогадзіны. — Як я мог быць настолькі затуманеным?! Ізраільскія дзяўчаты, якія лічыў я, от, сабе за дурненькіх, прадвяшчалі мне мой канец! А я гэтага не разумеў!

Там, у турме, аж там парваліся ў сэрцы Самсона ўсе струны любошчаў да Філістынак; затое струны народнае

гордасьці і сораму, туга нацягнутыя, зьвінелі ды зьвінелі, ня сьціхаючы...

Іх голас, іх зык, іх плач — гэта была адзіная размова Самсона ў няволі.

І ўздыхаў ён цяжка:

— О, Божа! О, Ягвэ, сьвяты Ізраілеў! Адпакутаваць хачу! Перапрасіць Цябе хачу! Перапрасіць дарагога Ізраіля! Я-ж быў нягодным яго Судзьдзёю! Не хачу, каб асталося такое няслаўнае імя!... О, Божа, Божанька! Дай нагоду яшчэ раз, толькі раз! Хай будзе помста! Не, ня помста— кара! Ды ня кара — ахвярнасьць!

Ягвэ выслухаў Самсона і даў нагоду. Мала было Філістынам прыглядацца да мядзьведзя ў клетцы. Прышло народнае сьвята; філістынскія волаты далі загад выпусьціць мядзьведзя з клеткі на двор — хай блазнуе прад народам... Ён, думаюць, сьляпы і ўжо бясьсільны, дык нічога ня зробіць!

Але інакш думаў Самсон. Яго валосьсе ў турме зноў адрасло і вярнула яму магутную яго сілу, пра гэта і забылі падпітыя Філістыны.

—Госпадзе, дзякую Табе! Але памажы яшчэ адзін, апошні разок! Хай бачыць Ізраіль, як Самсон гіне! — ўздыхнуў ён паціху.

І абхапіў магутнымі рукамі два сярэднія стаўпы філістынскага тэатру, ўпёрся, і заваліў усю будоўлю на сябе самога ды на Філістынаў і Філістынак. І—як кажа Біблія — пабіў Самсон Філістынаў тым разам больш, чым праз усё сваё жыцьцё.

А Юдэйскія дзяўчаты пасьля сьпявалі:

Хадзіў Самсон Філістынку любіці
Самсоне, трэ' было не хадзіці!
    Ой, лі—лі!
Самсоне, Самсоне, а дзе-ж твая сіла?
—Любоў Філістынкі праклятае зьела!
    Ой, лі—лі!
Іржа зьела жалеза, Даліля Самсона,
Вось штука!
— Хлопчыкі юдэйскія,
— Гэта для вас навука!
    Ой, лі—лі!

Аднак гэройская сьмерць праславіла Самсона так, што ён удастоіўся цёплага і шырокага ўспаміну ў Біблії.

*Пераклаў*
*Надбужны.*

# Наш адказ.

Наша праца над злучэньнем хрысьціян у адну царкву напатыкае на сваёй дарозе розныя закіды. Гэтыя ўсе закіды выплываюць з нячыстага жорала злосьці чалавечае, нажаль трапляюць да людзей мала асьведамленых і такім чынам ствараюцца перашкоды для пашырэньня сьвятой справы.

Шмат ёсьць такіх закідаў і выдумак, аб каторых нам не даводзіцца пачуць, вельмі многа ёсьць і такіх, што дапраўды няварта паўтараць, толькі можна пасьмяяцца і падзівіцца над чалавечаю дурнатою. Немагчыма на ўсе выдумкі адказаць, аднак на некаторыя трэба адказаць, дзеля таго, што найшырэй распаўсюджаны і знаходзяць такіх мала крытычных людзей, што вераць.

Адкажу ў гэтым нумары нашае часопісі на 2 закіды, якія сустрачаем у газэтах і вельмі часта здараецца пачуць іх у гутарках.

**1. Вы уніяты,** — так кажуць нязлучаныя праваслаўныя, — **дзеля таго мала бярэце за „трэбы"** (хросты, шлюбы, паховіны і іншыя), **бо вам дае грошы ўрад, польская ўлада.**

На гэта адказ мой выразны: нам урад на распаўсюджваньне сьвятой уніі нічога не дае. Ня толькі не дае грошай, але і ніякай помачы ў гэтай справе ад польскае дзяржавы мы ня маем.

Трудна дагадзіць народу: і так дрэнна і гэтак нядобра. Калі сьвяшчэньнік бярэ за трэбы дарага або што належыць, тады крычаць — скуру зьдзірае, немагчыма заплаціць, хоць апошнюю карову вядзі на рынак ды прадавай. А калі бярэ мала, а мо' нават зусім дарма павянчае,— гэ, — кажуць, — яму казна грошы дае, бо чалавек духам сьвятым ня жыве, мусіць мець скульсьці грошы.

Пэўне, што сьвяшчэньнік ня жыве толькі духам сьвятым, але таксама трэба ведаць, што ня толькі дзеля грошай можна працаваць: можна вельмі многа рабіць дзеля любові да Госпада Бога і дзеля сьвятога злучэньня хрысьціян.

**2. Пайдзі павянчайся,** — кажуць некаторыя ня вельмі разумныя, а многазлосныя людзі, — **ў уніяцкага бацюшкі, а па мэтрыку прыдзецца пасьля пайсьці да польскага ксяндза, а ён з цябе добра зьдзярэ.**

Дапраўды, гэта вельмі неразумны сказ і можа быць распаўсюджваны толькі паміж простымі неасьвечанымі людзьмі. Скуль узяўся, трудна ведаць, але даволі такі часта сустрачаецца.

Каб зьбіць гэты закід, адзін уніяцкі сьвяшчэньнік прынёс да царквы ўсе кнігі мэтрычныя і паказаў. Здаецца, чаго-ж яшчэ трэба, няма ніякага сумніву, што уніяцкая парафія таксама мае мэтрычныя кнігі і выдае мэтрыкі. Але і бяз гэтага паказваньня парафіяльных мэтрычных кнігаў вельмі лёгка можна пераканацца, ці выдае уніяцкі сьвяшчэньнік сам мэтрыкі, ці адсылае да каталіцкага ксяндза. Калі хто павянчаўся ў уніяцкай царкве, хай пайдзе і папросіць шлюбную мэтрыку і пераканаецца, што уніяцкі сьвяшчэньнік выдасьць яе сам, не пашле да каталіцкага ксяндза.

*Злучэнец.*

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

1. **Арыштаваньне сьвяшчэньніка.** Бальшавіцкая ўлада выдала загад арыштаваць сьвяшчэньніка Язэпа Пяткевіча, праз гэта самае 5 пагранічных парафіяў па той бок граніцы засталося без сьвяшчэньніка. (КАП).

2. **Гвалт не падлягае прадаўненьню.** Найвышэйшы суд разгледжваў нядаўна касацыйную жалабу праваслаўнае кансысторыі ў Варшаве на пастанову Апэляцыйнага Суда. Найвышэйшы Суд пацьвярдзіў пастанову Апэляцыйнага Суда, дзеля таго, „што зямля пасьля адабраньня яе ад б. уніяцкае парафіі передана ў 1875 годзе праваслаўнай парафіі, як усім ведама, гвалтам, а адабраньне ў такіх абставінах зямлі і валаданьне ёю нават больш як 30 гадоў не магло стварыць праўнага тытулу да набыцьця праз прадаўненьне“. Далей Найвышэйшы Суд зазначыў, што факт гвалту пры зьнішчэньні Уніі ў 1875 годзе не патрабуе доказаў на пацьверджаньне гвалту ў кожным асобным выпадку, распараджэньне аб касаце Уніі было моральным гвалтам, якога немагчыма было ўхіліцца. (КАП).

3. **Львоў. „Украінская моладзь Хрысту“.** У нядзелю 7 траўня с. г. адбылася вялізарная маніфэстацыя грэка-каталіцкае украінскае моладзі пад лёзунгам: „Украінская моладзь Хрысту“. На гэтую ўрачыстасьць сабралася з усяе Галіцыі каля 70 тысяч чалавек. (КАП).

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Я. Прав. Япіскап Чарнэцкі на аўдыенцыі ў Папы Рымскага.** 11 траўня Папа Рымскі Піус XI прыняў на асобным паслуханьні Я. Пр. Япіскапа Мікалая Чарнэцкага, апостальскага візытатара ўсходняга абраду ў Польшчы. (КАП).

**2. Горад Ватыкан.** 10 траўня Сусьветны Архірэй Папа Рымскі прыняў на паслуханьне галоўнага настаяцеля закону Рэдэмптарыстаў разам з гэнэральнаю курыяю і правінцыяламі, сабранымі дзеля сьвяткаваньня 200-летняга юбілею паўстаньня закону. Папа Рымскі выявіў сваю радасьць, што юбілей закону якраз прыпадае разам з юбілеем збаўленьня чалавечага роду. Закон Рэдэмптарыстаў (redemptio — адкупленьне) запраўды праводзіць справу адкупленьня чалавечага роду. (КАП).

**3. Асаблівае ўгонараваньне Я. Пр. Япіскапа Слоскана.** 12 траўня Кардынал Пачэллі ў таварыстве Архіяпіскапа Пікардо і Пралата Оттавіані адведаў Япіскапа Слоскана і прынёс падарак ад Папы Рымскага — дарагі крыж на грудзі. Як ведама, Япіскап Слоскан нядаўна вярнуўся з Савецкай Расеі і ня меў свайго крыжа; даведаўся аб гэтым Папа Рымскі і падараваў яму дарагі крыж. (КАП).

**4. Бэатыфікацыя Джэммы Гальгані.** 15 траўня адбылося ўрачыстае абвешчаньне бэатыфікацыі Джэммы Гальгані. Раніцаю ў Ватыканскай Базыліцы адслужыў перад іконаю Джэммы Гальгані Архіяпіскап Паліка сьв. Літургію, а па палудні зышоў да Базылікі Папа Рымскі разам з 16 кардыналамі ў прысутнасьці вялікага натоўпу людзей, каб аддаць чэсьць новай бэатыфікованай.

Джэмма Гальгані з Люккі радзілася ў 1878 г., памёрла ў 1903 г., мела ў сваім сьвятым жыцьці шмат цудоўных відзеньняў і таксама мела надпрыродны дар стыгматаў. (КАП).

**5. Вена.** У венскім унівэрсытэце заложана місіялёгічная катэдра, якую паверылі а. Іоану Торэну, вэрбісту (Конгрэгацыя Божага Слова). К. А. П.

**7. Сьмерць і паховіны Кардынала Цэрэтті.** Памёр Кардынал Цэрэтті, на паховінах яго 12 траўня было 22 кардыналы і шмат прадстаўнікоў ад сьвецкай улады. (КАП.)

**8. Іерархія Каталіцкае Царквы.** Паводле выданага нядаўна Папскага Гадавіка на 1933 год, у сусьветнай царкве ёсьць цяпер 207 мітрапалітаў, 37 архіяпіскапаў, 900 епархіяльных япіскапаў і 665 тытулярных япіскапаў. (КАП.)

**9. Бэрлін. Жудасныя лічбы.** Нядаўна газэта „Neues Volk“ апублікавала цікавыя лічбы аб сусьветнай вайне. Вайна гэта цягнулася роўна 4 гады, 3 месяцы і 10 дзён. У канцы вайны азброена было агулам каля 30 мільёнаў чалавек. Каля 60 мільёнаў чалавек было за час вайны змабілізована. У рэзультаце гэтай „нягоднай чалавецтва разаніны“ (як назваў вайну Папа Бэнэдыкт XV) аказалася больш як 11 мільёнаў чалавек забітых і загінуўшых невядома дзе. Выходзіць, што ў працягу $4^1/_2$ гадоў штомінуты гінула 4—5 чал. забітымі, штодня гэта дае 6—7 тысяч. Замораных голадам праз ваенную галіту ў паасобных краёх было 7 мільёнаў чалавек, раненых было 20 мільёнаў, пры гэтым шмат з іх па колькі разоў. Ваенныя расходы дайшлі лічбы 186 мільярдаў даляраў, страты ад прыпыненьня вытвару 151 мільярд, а разам сума стратаў па прычыне вайны 337 мільярдаў даляраў. У гэткім выпадку выходзіць, што забойства аднаго чалавека „каштавала“ 15.565 даляраў. За ўсе гэтыя грошы кожная дружына ў Польшчы, Аўстрыі, Нямеччыне, Расеі, Бэльгіі, Францыі, Англіі, Злучаных Штатах, Канадзе і Аўстраліі магла-б мець на ўласнасьць дом з садам і засталіся-б яшчэ вялізарныя грошы на прасьветныя і дабрадзейныя мэты. (КАП).

**10. Конкордат з Аўстрыяй.** У хуткім часе, паводле афіцыяльных інфармацыяў, мае быць падпісаны конкордат паміж Ватыканам і Аўстрыяй. (КАП).

**11. Жэнэва. Супольнае прыняцьце сьв. Прычасьця дзяцьмі ў Швайцарыі, ахвяраванае за дзяцей у Савецкай Расеі.** У нядзелю 7 траўня адбылося супольнае прыняцьце сьв. Прычасьця швайцарскімі дзяцьмі, якое ахвяравалі дзеці за рускіх дзяцей, каторыя цяпер ня маюць ані моральнае ані рэлігійнае апекі. (КАП).

**12. Мадрыд. Навярненьне гішпанскага бязбожнага пісьменьніка.** Гішпанскія газэты паведамляюць, што нядаўна памёр у Грэнадзе, памірыўшыся з царквою, вольнадумны пісьменьнік і соцыялістычны дзеяч Альфонс Гонцалец. Творы яго вызначаліся надзвычайна вострым сэктанствам і над та атэістычнымі тэндэнцыямі. Да Царквы нябошчык адносіўся варожа, будучы сэкрэтаром мясцовае групы соцыялістых-рэвалюцыянэраў. Прачуваючы блізкасьць сьмерці, папрасіў, каб прыйшоў сьвяшчэньнік, перад якім адкінуў свае памылкі і публічна вярнуўся ў лона Царквы. Памёр пасьля Сьв. Прычасьця. (КАП).

**13. Кітайская колегія ў Рыме.** 3-га чэрвеня прыбывае ў Рым група кітайскіх пілігрымаў у складзе 8 япіскапаў, а таксама і сьвецкіх асобаў, якія паміж іншым будуць прысутнымі пры консэкрацыі некалькіх новых кітайскіх, індый-

скіх і анаміцкіх япіскапаў, якую споўніць Св. Айцец 11 чэрвеня с. г. (КАП).

**14. Дар бэльгійскіх журналістаў Сьв. Айцу.** Паводле штогодняга звычаю бельгійскія журналісты 26.IV с. г. злажылі Сьв. Айцу ахвяру каталіцкае прэсы ў суме 300 тысяч франкаў. Дзякуючы за гэты дар, Сьв. Айцец зазначыў у сваёй прамове надзвычайна важную ролю каталіцкае прэсы ў працягу Юбілейнага Году. (КАП).

**15. 6.000 палісмэнаў Нью-Іорку прыняло Сьв. Прычасьце.** 2-га красавіка с. г. ў Нью-Іорскай Катэдральнай Царкве ў часе ўрачыстага кардынальскага багаслужэньня прынялі Сьвятое Прычасьце 6.000 палісмэнаў, якія належаць да Таварыства Ісусавага. (КАП).

# Календар

на м—ц Чэрвень, 1933 г.

| Стары стыль. Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Новы стыль. Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Юстыны | 14 | S | Bazyla Wial. |
| 2 | Ч | Нікіфара | 15 | Č | **Božaje Cieła** |
| 3 | П | Лук'яна | 16 | P | Benona |
| 4 | С | Мітрафана. | 17 | S | Adolfa |
| 5 | Н | **Дарафея** | 18 | N | **Jafrema** |
| 6 | П | Ап. Юды бр. Гасп. | 19 | P | Gerwazaha |
| 7 | А | Мяфода | 20 | A | Sylwestra |
| 8 | С | Тодара | 21 | S | Aloizaha |
| 9 | Ч | Кірылы і Тэклі | 22 | Č | Paŭlina B. M. |
| 10 | П | Цімахвея | 23 | P | Zenona. Serca Isusa |
| 11 | С | Баўтрамея | 24 | S | Nar. Św. Jana Chr. |
| 12 | Н | **Ануфрага** | 25 | N | **Wilhelma** |
| 13 | П | Давіда | 26 | P | Jana i Paŭła |
| 14 | А | Елісея | 27 | A | Uładysława |
| 15 | С | Амоса | 28 | S | Irynieja |
| 16 | Ч | Ціхана | 29 | Č | **Piotry i Paŭła** |
| 17 | П | Мануіла | 30 | P | Amili i Lucyny |
| | | | | | LIPIEŃ |
| 18 | С | Лявона | 1 | S | Naśw. Kroŭ Isusa |
| 19 | Н | **Юды. ап. Засіма** | 2 | N | **Adwiedz. N. Dz. M.** |
| 20 | П | Мяфода | 3 | P | Anatola |
| 21 | А | Юльяна | 4 | A | Todara. Jazepa |
| 22 | С | Аўсея | 5 | S | Antona i Zachara |
| 23 | Ч | Агрыпіны | 6 | Č | Daminika |
| 24 | П | Нар. Івана Хр. | 7 | P | Kiryły i Miafoda |
| 25 | С | Фэўніі | 8 | S | Alžbiety |
| 26 | Н | **Давіда** | 9 | N | **Weroniki** |
| 27 | П | Самсона | 10 | P | 7 B. Mučanik. |
| 28 | А | Кіра і Івана | 11 | A | Piusa I pap. |
| 29 | С | **Пётры і Паўла** | 12 | S | Jana Hwalb. |
| 30 | Ч | Сабор сьв. 12 ап. | 13 | Č | Anakleta pap. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.